№ 82 Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 82 (174). Год II. Вільня, 12 кастрычніка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

**ШТОКГОЛЬМ. „День“ у № 159 даносіць с Кіева, што камісія Цэнтральнай Рады атрымала вестку аб утварэньні Беларускай Рады у Маскве, каторая мае мэту дайсьці палітычнай аутономіі Беларусі і аддаць зямельную уласнасць селянам без ніякай платы. Украінская Рада пастанавіла паслаць Беларускай Радзе свой прывет.**

## Расейская заява.

### 11 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На узбярэжжы Фляндрыі і між Блянкартсэа і Пэлькапэль паабедзі агонь артылерыі дайшоў вялікай сілы. Пры Драэйбанку французы атакавалі ізноў, але дарэмна. У вечары над ваколіцамі Зонэбэк і Сандвордэ узнялася бітва на паветры, ў каторай прыняло ўчасьце 80 самалётаў. У ворагоў збіты 3.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На ўсходнім беразі Маасу мы здабылі важные ваколіцы ў лесі Шом. Адбіты 4 варожые контратакі. Узяты больш за 100 палонных і некалькі кулемётаў.

**Усходні тэатр.**

На некалькіх пунктах фронту жывейшы агонь. Расейцы абстрэлівалі Браіл. У адказ на гэта мы абстрэлялі Галяц, дзе узняліся пажары.

---

У вэрасьні ворагі утрацілі 22 прывязные лятучые шары і 374 самалёты, у тым ліку 167 збіты за нашымі лініямі.

Мы утрацілі ў бітвах 5 прывязных шароў і 82 самалёты.

---

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Новы ўрад выпусьціў заяву, ў каторай між іншым гаворыцца:

„Новые разрухі узняліся ў нашай старонцы. Вецер анархіі гуляе па ей. Націск замяжоваго ворага узрастае. Веручы, што толькі агульны мір дасць нашай бацькаўшчыне развіваць яе творчые сілы, урад будзе дабівацца агульнаго міва, вольнаго ад уселякаго гвалту. У поўнай еднасьці с саюзьнікамі урад у найбліжайшым часі прыме учасьце ў нарадах, дзе, побач са справамі агульнай вайны, нашы дэпутаты будуць старацца дайсьці с саюзьнікамі угоды на аснове апавешчэных расейскай рэволюціей прынцыпоў. Урад ужые ўсе свае сілы, каб паддзержаць супольные інтэрэсы саюзьнікоў, абараніць свой край і энэргічна паўстаць проці кожнай спробы захвату зямлі другіх націй і падчыненьня Расеі чужой волі; урад будзе старацца выгнаць з Расеі варожые войскі (Увага: Як канчаюцца гэткіе спробы, расейцы маглі пераканацца на прыкладах Тарнополя і Рыгі).

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). На нарадзі юрыдычнай камісcіі пры тымчасовым урадзі разгледалі праекты законаў аб рэспубліканскім упраўленьні і ўзаемных адносінах між Расеей і Фінляндзіей.

ЦЮРЫХ. Швэйцарскі геньраліссімус, генэрал Віль, заявіў, што с прычыны ваеннаго выступленьня Амэрыкі с прыходам новай вясны вайна пэўне ізноў дойдзе вялізарных размероў.

НЬЮ-ІОРК. Нэутральным параходам, стаяўшым у амэрыканскіх портах, ня выдалі вугальля. Амэрыка цьвёрда пастанавіла карыстаць з неутральных параходаў са згодай гаспадароў іх або і гвалтам. У адным Нью-Іорку знаходзяцца 80 голандзкіх параходаў, усягож у амэрыканскіх портах ёсць караблёў на 400.000 тонн ёмкасьці.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Результаты падводнай вайны: за восем месяцоў гэтаго году ў Англію прывезены толькі 317.000 тонн жалеза і сталі, 116.000 тонн фосфору і дынаміту і 242.000 тонн льну, канаплі і джуту. Адпаведные цыфры за гэткіж час у 1915 гаду: 766.000 тонн жалеза і сталі, 288 000 фосфатоў і дынаміту і 423.000 тонн льну, пянькі і джуту.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Сяродземным моры ізноў затоплено 12 параходаў і 33 парусьнікі агульнай ёмкасьцю больш за 46.000 тонн, у тым ліку два транспорты з войскам. Часць грузу станавілі 5.000 тонн збожжа і 3 500 тонн вугальля.

ЖЭНЕВА. Конгрэсс соцыялістоў у Бардо пастанавіў пазволіць соцыялістам увайсьці ў цяперашняе міністэрство у Франціі.

## Беларусы уцекачы у Расеі.

Беларускаму грамадзянству па гэты бок фронту пэўне цікаўна будзе даведацца аб долі беларускіх уцекачоў у Расеі.

Ўсім вядома, што большасць беларусоў не самахоць пакінулі родны край, але былі сілком выгнаты па загаду расейскіх ўласьцей.

Тымчасам, жадаючы пакінуць немцам пустыню і дзеля гэтаго прагнаўшы паўмільёна беларусаў з іх Бацькаўшчыны, расейскі ўрад (правіцельство) не абаспечыў ім жыцьця на чужыне. Так сама расейскае грамадзянство, што так рупілося ўмовіць сабе і нашаму народу, бытцым беларусы гэта рускіе, не звярнуло ўвагі на іх і на'т не *старалося* памягчы ім.

Эвакуація была зроблена без ніякаго пляну. Пунктаў дзеля страваваньня або зусім не было, або было іх вельмі мала. Людзі былі доўгі час ня еўшы і ўміралі з голаду, і тут жэ „великодушные русскіе люди“ ў формі салдата падносілі кусанік хлеба і прапанавалі купіць яго за чэсць! І чаго ня зробіць уміраючый з голаду чэлавек? Купялі.

Або гэт'кіе здарэньня, як ля Дзьвінску. Ўцекачоў ішло каля 12 тысяч. Побач з уцекачамі ўцекало ад немцаў і расейскае войска. Нямецкая артылерыя стрэляла па войску і не чапала ўцекачоў. І вось, бачучы тэта, тысячы войска кідаюцца да ўцекачоў, каб схавацца між імі ад артылерыі, а немцы пераносяць агонь, і ўцекачы нявінна гінуць.

Беларусы-ўцекачы былі гэтак размешчэны: трохі на Беларусі, найбольш у Мінску, трохі ў Пецярбурзі, крыху болей у Маскве, Яраславі, Казані, Саратаві, Самары і іншых местох Узволжа, а так сама па вёсках гэтых губэрняў і найбольш у Туркестане.

Ўрад памагаў нездатным да працы ўцекачом, значыцца: дзецям, старым і хворым, — даючы спачатку 4 рублі ў месяц, а ў канцы 6 рублёў. Ведама, гэтых грошы зусім мала. А трэба ведаць, што уцекачы апынуліся ў новых варунках. Штучна закіненым у якое-нібудзь мейсцо часта работы знайсьці было трудна, а пераехаць у другое мейсцо нельга, бо ўсе пераезды ўцекачом забаронены.

Але і гэта невялікая падмога, калі яна ішла ўцекачом цераз чыноўніцкіе камітэты, прападала, часта прападала... Напрыклад: у Казані ў местовым камітэці, што апекаваўся беларусамі, за 2—3 месяцы прапало 20 тыс. рублёў. З іх 16 тысяч украў і ўцёк сэкрэтар камітэту, а 4 тысячы да чыіх рук прыліплі—не было яшчэ тады добра вядома. Але беларусы далёка ня ўсюды былі з'арганізаваны, дый адносіны расейскаго ўраду да беларускаго грамадзянства былі вельмі благіе, так што толькі беларускі пецярбурскі камітэт дастаў 55 тыс. руб.—у той час, калі палякі дасталі каля паўмільёна. Вось, беларускіе ўцекачы мусілі даставаць падмогу с чыноўніцкіх ліпкіх лапак.

У Мінск і Пецярбург прыехало шмат сьвядомых беларусаў. Апрача гэтаго, тут былі мейсцовые беларусы. Яны ад самаго пачатку заклалі „Беларускіе таварыствы помачы уцекачом“, да каторых належыць цяпер па некалькі сот чэлавек і ўсе яны працуюць не апускаючы рук; дзеля гэтаго і ўцекачом беларусам у гэтых двох местох ляпей жывецца.

Пецярбурскае таварыство, апрача вялікай падмогі вопраткай летняй і асабліва цёплай, зімовай ды грашмі, мае некалькі танных і дармовых стравень, некалькі бурс (пансіёнаў)—адну для вучнёў сярэдніх школ на 40—50 чэл., другую для вучаніц сярэдніх школ і 2 пансіёны для дзяцей—хлопчыкоў і дзеўчатак; мае майстроўні: шавецкую, кравецкую, сталярную і майстроўню для жанок, мала ўмеючых шыць. Апрача гэтаго, пецярбурскае таварысто мае 2 беларускіе пачатковые школы. Сёлета вясной гэтае таварыство дастало ма прадмесьці Пецярбурга вялікі дом з гародам. Над домам развеваецца беларускі флаг.

С працаўнікоў гэтаго таварыства назаву толькі некаторых энэргічнейшых членаў камітэту. Гэта: доктар Ерэміч, праф. Міткевіч, Э. Будзька, прафэсар Эпімах-Шыпілло, Душэўскі, Ч. Родзевіч, кс. кс. Будзька і Хвэдзька, Цішка Гартны, Андрушкевічанка, Тарашкевіч, Гінтаўт-Дзевалтоўшчанка.

У кастрычніку 1916 г. у Пецярбурзі пачалі выходзіць дзьве беларускіе газэты: «Дзянніца» рускімі літэрамі, рэдактар Ц. Гартны, «Сьветач»—лацінскімі, рэдактарам быў Э. Будзька. Газэты гэтые вы-

даваліся на грошы, сабраные між сьвядомымі беларусамі.

Пратрывалі яны да лютаго 1917 году і перэсталі выхадзіць с прычыны цэнзуры. У газэтах вялікшая часць мейсца была белая. Нельга было пісаць самай назовы „Беларусь“. Дайшло да таго, што газэты запраўды перэсталі быць газэтамі беларускімі, а сталіся толькі газэтамі ў беларускай мові.

Тое самае, што ў Пецярбурзі, дзеецца і ў Мінску, толькі тут, дзеля таго, што гэта на Беларусі, карысць вялікшая, бо с культурнай працы карысталі ня толькі ўцекачы, але і мейсцовые жыхары. Тут ёсць беларускіе школы ня толькі ў месьці, але і па вёсках. Як на асаблівасць, можна паказаць на агародніцкіе і гаспадарскіе курсы і коопэратыў „Залатагорская хаўрусная крама“. Пры закладаньні гэтай крамы паклалі шмат працы Смоліч і Алексюк. Цяпер гэная крама мае ня менш 1.000 сябраў; кіруе ей прапаршчык Турчыновіч, аграном, чэлавек вельмі энэргічны, развіты і акуратны.

У Мінску асабліва працуюць Алексюк, Смоліч, адвакат Чаўсоў, Скірмунт, князіня Радзівілл, Левіцкі, кс. Годлеўскі, Уласоў, Сівіччанка, Голуб, Ванда Левіччанка, Жданоніч, Родкевічанка і Русецкі.

Гэткае больш менш, як у Мінску і Пецярбурзі, палажэньне беларусаў у Яраславе, дзе нябошчык Богдановіч арганізаваў падмогу ўцекачом, заахвоціўшы да гэтае працы беларусаў студэнтаў і прафэсароў, з інстутуту, перамешчэнаго сюды з Беларусі.

Цяжкое палажэньне беларусаў у Казані, Самары, Саратаве. Сьвядомых інтэлегэнтных беларусаў ажно да рэвалюцыі тут зусім не было, а тые, што былі з ваенных, да рэвалюцыі не маглі працаваць. Народ, пакінены сам сабе, церпіць нязьмернае горэ. Жах бярэ, глядзючы на гэтых людзей. Ня толькі задыхаюцца ў тухлых сырых падвалах і сохнуць ад трасцы і часта ад сухот, але не хапае найпатрабнейшаго з вопраткі і яды, дый нават звычайнаго слова спогаду ні адкуль не пачуюць. Народ цёмны, прыбіты, сядзіць, як у катаргі. „Ні прасьвету, ні надзеі...“

Але найгорш у Туркестане. Тут у 1915 і 1916 гад. між беларускімі уцекачамі была пошэсць чумы і халеры, і шмат нашаго народу памёрла.

Дазнаючы гэтулькі гора, уцекачы нават не маглі усьцерагчыся, каб яшчэ іх не вінавацілі. Калядамі 1915 г. у Маскве і Пецярбурзі чуць ня быў пагром уцекачоў. Іх вінавацілі ў тым, бытцым яны паднялі на ўсё цану.

Тые з абмаскоўленых інтэлігэнтных беларусоў, што думалі, бытцым беларусы — рускіе, пазналі, нават балюча на сабе пачулі ў Расеі, што яны зусім ня рускіе!

*Янка Станкевіч.*

---

## За нашу і вашу...

(Ахвярую А. Д.).

Рукапіс гэты здадзен у Рэдакцію па польску. Пераклад зроблен Рэдакцией.
Рэд.

Усім вядомы ўступ з «Róży»:

У енку віхроў між забытымі магіламі чуцен крык роспачы: „Калі-ж паднімем галовы нашы з акрываўленаго ложа? Калі-ж на лоне народу супачынем у славы кароне? Хто дасць нам адказ?“ А сьнегавы вужака, прыпадняўшы галаву сваю над магіламі і абвіваючы дрэво шыбеніцы, шэлясьціць: „Ніхто не нарушыць сноў трунам, у магілах зарытым, і моцы, ў яму гніюшчую скінутай... Няволя вее праз вёскі, няволя йдзе праз месты, і шлях ваш травой зарастае. Ніхто вас ня кліча!...“

Многа залатых пуцін славы травой зарасло, многа клічоў вялікіх бяз воткліку лунае, многа вогнішч яркіх пагасло. —

„За нашу і вашу!“ — плачэ вецер між магіламі героеў.

— Ха-ха!—суха сьмяецца сьнегавы вужака.

За нашу і вашу! Гэты кліч шэпталі маладые вусны, і агонь гарэў у вачах. У гарачых спорах грымелі пратэсты проці эгоізму наагул, проці нацыональнаго эгоізму асабліва. Сурова судзілі нацыональную экспансію. А тым, хто прамаўляў аб рэальнай палітыцэ, аб нацыональных здабычах, адказывалі: Проч! Вось, мы, маладые, ўмілавалі ясные зоры волі, і вочы нашы поўны іх блеску. І хто здолее прымусіць нас узірацца ў цемру ненавісьці? Проч! — Мрок вісеў над нашымі дзіцячымі гадамі, над нашай моладасьцю, плакаў у нас боль паняверкі і бязсільля. —

„Не знаеш праўды аб польскім людзе. Каб ты знаў увесь боль праўды аб тым людзе, забытым небам і зямлёй, тваё сэрцэ разарвалося бы ад роспачы“— казаў Жэромскі. А найлепшые сэрцы маладзёжы нашай, пазнаўшы польскае мучэніцтво, навучыліся разумець мукі братніх народаў. Нарадзілася ў іх вялікая, ўсё абнімаючая любоў. Любоў да ўсяго, што церпіць і плачэ ад болю.

Стварылася вялікая ідэя аб еднасьці народаў.

— „Мана!“ — крычэлі на гэта.

— „Не! Усё, што пакідае свой сьлед на рэальнасьці, ёсць сама рэальнасць А мы бачым, што туга уцісканых крые ў сабе тхненьне нашаго ідэалу. „Наш“ боль мы з „вашым“ болем злучаем. За нашу і вашу... І чы ёсць нешта больш праменнае, што моладасць магла ўмілаваць? Вузкая любоў становіцца эгоізмам — сямейным, клясовым, нацыональным.. Але любоў, каторая ўвесь сьвет агарнула, каторая адклікаецца на кожын боль, не пакідае мейсца для эгоізму. Мо' калісь пашырыцца яна яшчэ болей, мо' чэлавеку дадзено будзе мілаваць істоты на іншых плянэтах. Можэ?... Бо-ж і цяпер чэлавек тужліва на зоры пагледае. Але перш трэба ў сабе тую зямную любоў знайсьці.

Чэсць і хвала кожнаму збудзіўшамуся народу, каторы падняў голас за правы свае. Ніколі польская рука не павінна тушыць сьветла, ніколі не павінна прагавіта сягаць па чужое. Ніколі нельга дзеля дачэснай карысьці вырэкацца кліча „за нашу і вашу“. А калі на момэнт скрозь запануе дэмон эгоізму і гвалту, — хадзем між магілы героеў і паднімем там штандар, „у бітвах парваны“!

Хай не плачуць забытые магілы...
За нашу і вашу!

*Э. Кобылінска.*

**Ад Рэдакціі.** Мы ахвотне друкуем гэты голас прэдстаўніцы польскай паступовай маладзёжы, вітаючы яго, як ясны промень у цяжкай атмосфэры нацыональнаго шовінізму, агарнуўшай тутэйшае польскае грамадзянство.

---

## У Вільні і ваколіцах.

× **Памяці Максіма Богдановіча.** У нядзелю, 14 кастрычніка, а ¹/₂4 гадз. паабедзі ў Беларускім Клюбе збяруцца члены клюбу і драматычнай дружыны дзеля ўшанаваньня памяці памёршаго без пары песьняра беларускаго, Максіма Богдановіча. Будуць прачытаны два рэфэраты, багата ілюстраваные творамі Богдановіча. Дэклямаваць будуць найлепшые сілы драматычнай дружыны.

Ўход для членаў Клюбу і драматычнай дружыны — безплатны. Госьці па рэкамэндаціі плоцяць 50 фэн.

× **С таварыства „Золак“.** Урад нідаўна адкрыўшагося у Вільні Беларускаго таварыства „Золак“, пасьля сарганізаваньня, энэргічна приступіў да працы. За кароткі час (не споўна месяц) урад т-ва здолеў ужо наладзіць прытулак для бяздомных і бедных дзяцей. Пад прытулак нанят цэлы дом на Бэрнардынскай вуліцы № 7. На першым паверсе памешчэны спальні, кухня і сталовая, на другім паверсе—класы і рэкрэацыйны пакой. Прытулак аблічэн на 50 сталых і 20 прыхадзячых дзяцей. Дзеці дастаюць тры разы ў дзень гарачую страву, а пасьля сарганізаваньня школы будуць мець пачатковую навуку і лекціі рукадзельля.

Да першаго беларускаго прытулку ў Вільні бацькі і апекуны дзяцей, беларусы, засыпаюць урад таварыства просьбамі а прыняцьці дзяцей і аб навучаньні іх у роднай мове. Дагэтуль зложэно у таварыство больш сотні гэткіх просьб, але на жаль капіталы таварыство «Золак» так малые, што ня можэ быць і гутаркі аб тым, кеб прыняць усіх беларускіх дзяцей пад сваю апеку, якіе яе просяць. Клопат вялікі мае таварысство з грашамі на так вялікую сямейку і патрэбы вялікіе, дзеля гэтаго прымушэно таварыство звярнуцца с просьбай да грамадзянства, каб памагло пракарміць і адзець праз зіму прынятых ужо пад апеку дзетак. Патрэбна помач і грашавая і харчэвая і адзежай. Надзея на добрых людзей. Урад таварыства памешчаецца на Завальнай вуліцы № 7, пры Беларускай кнігарні.

× **Пагода у верасьні.** Верасень —гэта ў нас першы асеньні месяц. Сёлета ён быў, аднак, апошнім летнім месяцам. Выключаючы паўночную часць нашаго Краю, дзе за апошнюю ноч у верасьні тэмпэратура мейсцамі упала ніжэй нуля, наагул, верасень быў сёлета без марозаў.

Найніжэйшая тэмпэратура ў Вільні была 7 верасьня а 5 гадз. раніцы: +3°.

Найвышэйшая—27-го, а 2 гадз. паабедзі: +24°.

Сярэдняя тэмпэратура за месяц:

| | | | |
|---|---|---|---|
| а 5 | гадз. | раніцы | + 9° |
| „ 7 | „ | „ | + 12,2° |
| „ 2 | „ | ў дзень | + 16.8° |
| „ 9 | „ | вечара | + 11,6° |

Сярэдняя месячная тэмпэратура: + 12,2°.

Сёлета верасень быў сухі. Толькі 11 дзён далі асадкоў больш ва 0,1 мм.

Агульная сумма асадкоў за месяц—23,2 мм.

---

## Перажыткі паганскаго сьветапагляду у беларусоў.

(Гл. «Гоман» № 66—81).

**На Юр'я** да ўсходу сонца, кожны гаспадар выганяе пасьвенчанай вербай свой статак у поле на «Юр'еву расу». Ен бярэ с сабой пасьвенчанае яйко, соль, косьці ад вялікодных страў і вугалі с хатняго загнёту. Усё гэта закапывае па чатырох канцох поля, каб захаваць яго ад граду, посушы і заломаў. Пасьля статак гоняць дамоў, і гаспадыні здаюць яго пастухом.

**Купальле.** Німа другога народнаго сьвята болей, багатаго перажыткамі паганскай старасьвеччыны, як сьвяткаваньне Купальля ў ноч з 23 на 24 чэрвеня; да гэтаго сьвята адносіцца многа цікавых легенд, апаведаньнёў і абычаёў.

На Купальле цьвіце агнявістымі краскамі папарацъ, а краскі гэные даюць ўсёведаньне, ў тым ліку і спосаб да знаходжэньня скарбоў. Акром таго на Купальле «сонцэ іграе», г. зн. распадаецца на неколькі сонц, каторые то разбегаюцца у староны, то злучаюцца у адно сонцэ. Травы і краскі, збіраные ў гэты дзень, набіраюць асобнай сілы, — гаючай і чарадзейскай. Расьліны ў Купальскую ноч размаўляюць паміж сабой, ходзяць адны да адных у госьці, нават танцуюць, толькі звыклые вочы гэтаго не бачуць.

Скарбы на Купальле выходзяць спад зямлі на верх, «купаюцца і сушацца»; яны ў гэты час «здаюцца» ў розных постацях, найчасьцей у кшталце агня, або жару, які пры прыбліжэньні да яго мігам знікае. У гэту ноч сьняцца вешчые сны, «ведзьмы-кароўніцы» адбіраюць малако у кароў, «псуюць статак».

У Купальскую ноч маладзеж збіраецца на палянку ў жытнюю змену, там раскладаюць агонь і ладзяць банкет. Пасьля запаляюць старое кола, аблітае дзёгцям і насаджэнае на жердзь, і танцуюць кругом кола, пабраўшыся за рукі, пяючы купальскіе песьні. Пасьля гэтаго хлопцы і дзеўчаты, парамі і ў адзінку скачуць праз агонь, каб ачысьціць сябе і захаваць ад немачэй, чароў і варожб.

Кустовые сьвяткі адносяцца да цыклю Купальля.

**Багач.** Багачом у большай часьці Беларусі называюць Першую Прачыстую (8 верасьня), а мейсцамі Спаса (6 жніўня). У жыцьці ратайскім гэта самы шчасьлівы час — час адноснай заможнасьці, калі і у бедака ёсць хлеб на стале, а у багатых „як князі скірды сідзяць па гумнох, высока падняўшы галовы“. З гэтаго зразумела, чаму народ называе „багачом“ сьвята, прыпадаючае на час дакончэньня жніў і гаспадарскай абфітасьці. Але ёсць факты, прымушаючые думаць, што багач — адно з ратайскіх божышч дахрысьціянскіх часоў.

Галоўную ролю у обрадзе гэтаго сьвята іграе „багач“. Гэта лубка жыта з устаўленай у яе васковай сьвечкай. „Багач“ стаіць круглы год, пераношэны пачародна с хаты ў хату, на куце, за сталом. У гэты дзень запаляецца сьвечка.

Гэтае злучэньне збожжа, сымвола абфітасьці, са сьвечкай, сымволам сьветазарнаго пачатку, лепшы праобраз сонца Дажд-Бога, крыніцы сьветла і разам с тым апякуна ратайства. Трудна прыдумаць больш падхадзячую сымволізацію сонца, згодна с первабытным паняцьцем аб ім, як аб богу ратайства.

Найбольш мокры дзень быў 21: 7,5 мм. Ужо 8 дзён былі туманные. 9-го у вечары відаць былі зарніцы.

Сёлетні верасень быў удачны для селян. Рэзультат гэтаго—знаменіты ураджай бульбы. Авёс — слабы. Жыто даволі добрае. Сухі верасень пазволіў засеяць у добрых варунках азіміны—надзею будучаго году.

× Тэмпэратура. Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 7—8 | + 9° | + 0,5° |
| 8—9 | + 6,5° | + 3° |
| 9—10 | + 9,5° | + 5,5° |

## З усяго Краю.

### Заява Граднаўэр'а.

У нямецкім Рэйхстагу соцыаліст Граднаўэр заявіў 10 кастрычніка:

„Курляндзія, Ліфляндзія і Польшча павінны астацца гаспадарамі у сваей хаці, але толькі пасьля угоды з Расеей“.

### Помач адзежай.

Бэрлінскі жыдоўскі камітэт пасылае ў наш край дзеля жыдоўскаго насяленьня некольки вагонаў старой і новай обуві і адзежы. Яе будуць раздаваць не дарма, а за невялікую цану. На гэта Об Ост пажычыў 100.000 марак.

### Антрополёгічные данные аб літвінох.

Грыневіч дае гэткіе адзнакі выгляду літвіноў:

Трэба адрожніваць жыхароў Заходняй Літвы (Жмудзі) ад жыхароў усходніх літоўскіх ваколіц. Жмудзіны крыху ніжэйшые за ўсходніх літвіноў. Жыхары Жмудзі больш белакурые, чым па ўсей Літве. На Жмудзі так-жэ больш людзей с сінімі вачамі. Наагул, кабеты маюць сьвятлейшые валасы, чым мужчыны.

---

УРДОМІН. Сюды пераведзен з Мар'ямполя кс. Бразаўскас.

БЕЛАСТОК. У ваколіцах Беластоку аб'явілося многа лісоў, каторые робяць у селян многа шкод. Некольки штук удалося забіць.

БЕЛАСТОК. Тут сконфіскавалі падробленую гэрбату ў такой упакоўцы, каторая важыць бадай гэтулькі, як і самая гэрбата. Прадаўцоў аштрафавалі ад 200 да 60 марак.

БЕЛАСТОК. На Слабодзкай вуліцы крымінальная паліція арэштавала воз з значным запасам сьвежаго мяса з забітай не ў бойні жывёлы. Мясо сконфіскавалі.

БЕЛАСТОК. Тут арэштавалі пасьля доўгаго даходжэньня зладзея, украўшаго ў мануфактурнай краме тавароў на 10.000 м.

БЕЛАСТОК. На Купецкай вуліцы зладзеі забраліся у краму і укралі 20 раменных паясоў цаной разам на 20.000 м. На Скарупах украдзены 5 паясоў цаной 2.000 марак.

ГРОДНЯ. Тож юбілей! — 5 верасьня хлебовые карты сьвяткавалі тут свой двухгадовы юбілей.

ГРОДНЯ. Абломкі жалезнадарожнаго маста цераз Нёман, узарванаго расейцамі, дастаюць цяпер з вады. Глядзець на гэта збіраецца многа цікавых.

ГРОДНЯ. Тутэйшы паветовы вастрог ад 1 кастрычніка абернен у акружны.

ГРОДНЯ. Шавец Шмуль Гордон лічыў селяніну, катораму прадаў боты, рубель за 2 м. 50 фэн. Яго за гэта аштрафавалі на 150 марак.

ВАСІЛЬКОЎ. Тут ізноў укралі 3 каней.

ШУЛІЧЫ. У аднаго тутэйшаго селяніна выкрылі каня, каторы за 2 гады 8 разоў зменяў гаспадара. 4 гандляры, перэпрадаваўшые яго за 2 гады 8 разоў, аштрафованы за прадажу каня без пазваленьня на 50 м. кожын.

ВЕРЖБАЛОВО. У тутэйшым пажарным складзі адбыўся літоўскі сход. Кзёндз гаварыў аб літоўскай конфэрэнціі ў Вільні. Прамоўца заявіў, што вольная Літва павінна экономічна апірацца на Нямеччыну. Інтэрэсы Літвы цягнуць яе на заход, а не на ўсход. Карысць Літвы зусім не вымагае паддержываць зносіны з Расеей і Польшчай.



ВЕРЖБАЛОВО. Лютэранскі пастар Можульскі, каторы ўцёк адгэтуль у Рыгу ў першых днях вайны, вярнуўся назад пасьля трохгадовай нябытнасьці.

СУВАЛКІ. За мінулае лето ў Сувалках, Оліце, Даўгах, Сэйнах і Аўгустове былі наладжэны вучыцельскіе курсы. Аб'ём курсоў быў павялічэн новым прадметам—ігрой на скрыпцы. Ў Сувалках выкладалі такжэ гімнастыку і дзіцячые гульні.

СУВАЛКІ. Тутэйшы Krejshauptman, гр. Рэйхэнбах, с прычыны хваробы вышоў у адстаўку. На гэтае месцо ён паступіў 1 мая 1916 г., замяніўшы Krejshauptmana Бэльмана. Цяпер яго заступае міравы судзьдя Пэнкэрт.

МАР'ЯМПОЛЬ. Наладжэная тут 1 ліпня 1916 году дажджовая станція апавешчае:

Ліпень быў сёлета самы мокры месяц. За 17 дзён ён даў 122,1 мм. асадкоў проці 12 мокрых дзён з 114,6 мм. асадкоў летапшняго году. Жнівень таго году даў за 18 дзён 122,3 мм. проці пяці дзён с 50,7 мм. сёлетняго жніўня. Сёлетні верасень быў вельмі сухі: за 5 дзён ён даў толькі 34,5 мм.

Найбольш мокры дзень за мінулые месяцы быў 16 ліпня і даў 29.2 мм. асадкоў проці 27,8 мм. 19 ліпня летапшняго году.

МАР'ЯМПОЛЬ. Сюды прыехаў дзеля агляду ўрадовых установ начальнік упраўленьня Літаўэн, князь Ізэнбург. Ен аглядзеў падместовы двор Квецішкі, а адгэтуль паехаў у Вільковішкі.

ДОВГЕЛЯНЦЫ, пад Кібартамі. 68-гадоваго селяніна Крэмэра забілі і павесілі жонка яго і пасынкі. Прычына — сямейные сваркі. Душэгубаў арэштавалі.

ГАРВРЫХРУДА, сувальск. пав. За недазволенае мліво тут зачынен млын.

КОЎНА. На тыдзень тут выдаюць па $3^1/_2$ рас. фунта бульбы па 8 фэн. за фунт і $^1/_2$ ф. круп па 20 фэн. за фунт.

КОЎНА. У начы с 6 на 7 з двара дому № 19 пры вул. Гіндэнбурга украдзены 6 гусей.

РЫГА. 1 кастрычніка адкрылася першая латышская газэта, а 8—штодзенная нямецкая.

Тутэйшы музэй штукарства ладзіць выстаўку па гісторыі рыжскаго местоваго тэатру—с партрэтамі дырэктароў тэатру і артыстоў, рысункамі, рукапісамі і т. д.

МІТАВА. Наладжэны акуратные зносіны з Рыгай омнібусам.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ШТОКГОЛЬМ. Бышы расейскі пасол у Токіо і Вашынгтоне, бар. Розэн, друкуе ў газэці большэвікоў „Новая Жізнь“ пісьмо, ў каторым вінаваціць расейскую дыплёмацію, што яна лішне мала руліцца, каб ад саюзьнікоў Расеі дабіцца прызнаньня прынцыпа расейскай рэволюцыйнай дэмократіі „мір без аннэксій і контрыбуцій“. Двайчастасць расейскай палітыкі разбівае націю на два абозы, с каторых адзін цьвёрда жадае міра, а другі — шмат меншы — жадае упорна вайны да канца.

ШТОКГОЛЬМ. „День“, газэта Керэнскаго, высказывае надзею на агульны мір. Чуткі аб міры—вельмі упорные. Нельга сумлевацца, што пытаньне аб міры цяпер сталося найбольш палючым. Усе дыплёматы кажуць, што настаў псыхолёгічны момэнт дзеля міра.

ШТОКГОЛЬМ. Тымчасовы ўрад пастанавіў споўніць жаданьне жалезнадарожнікоў аб павялічэньні заработнай платы. На гэта пойдзе ў год на 730 мільёнаў руб. болей. Поруч с тым апавешчаецца закон аб здаволіваньні жалезнадарожнікоў спажыўными прадуктамі.

Сход камітэтоў работнікоў газавых промыслоў с прычыны адмовы прамышленікоў выдаляць работнікоў толькі пасьля згоды работніцкіх організацій пастанавіў пачаць 10 кастрычніка агульную забастоўку.

ЖЭНЕВА. Генэральны сэкрэтарыат Украіны звярнуўся да народу з адозвай, апавешчаючы, што сэкрэтарыат прыняў на сябе упраўленьне старонкай.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А). Спіс членаў коаліцыйнаго міністэрства:

міністры-соцыалісты: Керэнскій, Нікітін (почта і тэлегр.), Малянтовіч (суды), Прокоповіч (спажыўные справы), Авксентьев (сельская гаспадарка), Гвоздев (публічные работы);

міністры не-соцыалісты: Тэрэшчэнко (загранічн. справы), Коновалов (таргоўля), Бернацкій (фінансы), Саласкін (народная прасьвета), Трэтіков (гасударств. кантралёр), Ліверовскій (дарогі), Верховскій (вайна), Вердерэвскій (флот).

Па прэдлажэньню Цэрэтэлі тымчасовы парлямэнт будзе называцца „тымчасовай радай рэспублікі Расеі“.

Кадэты утварылі камісію с 5 асоб. каб у згодзі с камісіями прамышленікоў Масквы і Пецярбурга ўлажыць спіс прэдстаўнікоў буржуазных партый у тымчасовым парлямэнці числом 120.

Бюро пецярб. рады раб. і салд. складаецца цяпер с 7 членаў:

4 большэвікоў, у тым ліку Троцкій і Каменёв, 2 соцыал-рэволюцыонероў, між імі Чэрнов, і 1 меньшэвіка. Маршалкуе большэвік Троцкій.

ПЕЦЯРБУРГ. Газэты заяўляюць, што цераз тры тыдні спадзеваюцца з'езду рад раб. і салд. Тады пачнецца сапраўдная бітва за ўласць у Расеі. У гэткім духу прыняла ўжо рэзолюцію пецярбурская рада раб. і салд.

„Правіт. Вестн.“ друкуе інструкцію аб выбарах у установчы сэйм для арміі і флоту. Сухапутны фронт дзеліцца на 7 акругоў: заходні, палудзенна-заходні, румынскі, каўкаскі і паўночны, францускі і балканскі. Флот — на два округі: балтыцкі і чорнаморскі. У глыбіні Расеі ваенные падаюць голас на выбарах разам с цывільнымі жыхарамі.

ГААГА. Члена Думы, Львова, пасадзілі ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Ён замешан у справу Корнілова.

ШТОКГОЛЬМ. Сьледчая камісія у справе генэрала Каледіна апавешчае, што ўсе весткі аб бытцым то падгатаўленьні ген. Каледіным бунту нязгодлівы с праўдай. Каледін ні ў чым пе вінават

Аднак, Каледін адмовіўся ехаць у Глаўную Кватэру ў Магілёў дзеля дачы адказу.

ПЕЦЯРБУРГ. Паводлуг газэт з Ялты, ў Крыме ждуць сьмерці быўшай царыцы-ўдавы Марыі Фёдараўны, каторая ляжыць ужо без памяці.

ЖЭНЕВА. Расейская царская сем'я перавезена с Табольску ў манастыр Абалак.

# З усяго сьвету.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). *Рэйхстаг.* Марскі статс-сэкрэтар здаў справу аб зносінах незалежнай соцыал-дэмократычнай партыі з матросамі флоту, каб па прыкладу расейскай рэволюцыі вясьці агітацію і гэтак дабіцца міра. Глаўны агітатар у гмаху Рэйхстагу, ў пакою незалежнай соцыал-дэмократыі, развіваў свае пляны дэпутатам Дітману, Гаазэ і Фохтэру, і яны адобрылі іх. Яны радзілі яму быць вельмі асьцярожным і далі яму агітацыйны матэр'ялы. Матросы, забыўшые сваю чэсць і павіннасць, панясьлі заслужаную кару. Аднак, чуткі аб гэтых прыпадках вельмі перавышэны. Баевая здольнасць флоту ні на адзін момэнт не вызвала сумлеваньня.

Дэпутаты Гаазэ, Фохтэр і Дітман заявілі, што заява марскога міністра — праўдзіва.

БЭРЛІН. *Рэйхстаг.* Дэпутат Ледэбур, с партыі незалежных соцыялістоў, заяўляе:

„Задача пролетарыату — парупіцца аб мір і дайсьці яго массовай забастоўкай усіх народаў".

БУДАПЭШТ. (В.Т.Б.). Міністэр культу, гр. Апон'і, заявіў, што гр. Чэрнін і нямецкі імперскі канцлер ешчэ нідаўна казалі, што ня хочуць заваеваньнёў і гатовы пачаць зара перэгаворы аб міры. «Але нашы ворагі ўсё ешчэ ня хочуць міра і толькі на днях апавесьцілі аб сваім жаданьні заваеваць Семіградзію. Але Вэнгрыя не уступіць ні пядзі сваей зямлі».

ЛОНДОН. Сход за мір у адным с тутэйшых касьцёлаў разагнала грамада народу, ў каторай былі і кабеты. Грамада пеяла патрыотычные песьні і хацела падпаліць касьцёл. Прамаўляўшых за мір пабілі крэпка.

БАЗЭЛЬ. «Manchester Guardian» піша, што ў тую нядзелю ў Лідсе, Іорку, Бірмінгаме, Блэкбурне, Глясго і іншых местох Англіі адбыліся мітынгі проці вайны, на каторых прыняты рэзолюціі з жаданьнем той-час пачаць мірные перэгаворы на аснове расейскай формулы „мір без аннэксій і контрыбуцій".

БЭРН. Амэрыканскіе газэты даносяць, што жаданьне міра ў Злучэных Амэрыканскіх Штатах усё узрастае. У Нью-Іорку ірляндзкіе рэволюцыйные саюзы ўладзілі вялізарную дэмонстрацію проці англічан.

НЬЮ-ІОРК. Рэдактароў «Tageblatt'a» ў Філядэльфіі аддаюць пад суд за тое, што іх газэта назвала Вільсона, Ллойда Джорджа, Рібо і Керэнскага праўдзівымі аўтократамі, раўнуючы да каторых імператар Вільгэльм аўтократ толькі ў тэорыі.

ЛЮГАНО. Палажэньне ў Турыне ізноў вельмі вострае. Рух узняўся ізноў і ў Мілане.

ТОКІО. Шкоды, зробленые тайфунам, даходзяць 100 мільёнаў ен. У адным толькі окрузі Токіо пагібло больш 500 душ. У Сунаміру знайшлі 300 трупоў. 300 жыхароў аднаго невялікаго острава змыты разбушэваўшымся морэм.

ШАНХАЙ. (Рэўтэр). У паўночным Кітаі паводка заліла больш за 30.000 кв. кіл. Чыгунка Пекін-Ханькоў зруйнована. Эўропэйскіе кварталы ў Тсян-Тсіне заліты вадой.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**9. X.** *Заходні тэатр:*

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Артылерыйская бітва трывала з узмацаванай сілай між лесам Гутгольцт і Сандвордэ. Раніцай артылерыйскі агонь дайшоў да барабаннаго. Пасьля наабапол чыгункі Стадэн-Бэссінгэ і на паўночы ад дарогі Мэнін-Іпр англійская пяхота пачала штурм. Бітва ідзе поўным ходам.

*Усходні тэатр:*

Без перамен.

**10. X.** *Заходні тэатр:*

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На полі бітвы у Фляндрыі ўчора апрыч 11 англіцкіх дывізій выступілі і француские войскі. Страшэнне напружаньне сіл саюзьнікоў слабело праз увесь дзень с прычыны стойкасьці нашых ваякаў. Пасьля найсільнейшаго барабаннаго агня пачалася бітва, трываўшая да позьней ночы на шырыні 20 кіл. між Бікссгот і Гэлювэльт. У некаторых пунктах ворагі штурмавалі па 6 разоў. На поўдні ад лесу Гутгольцт, пры Дрэйбанку, Мангеляры, Фэльдгуку і ля станціі Пэлькапэль ворагі здабылі абшару каля 1.500 мэтроў. Тады нашы рэзэрвы пайшлі ў контратаку і паменшылі пачатковые ўдачы варагоў. Ад Пэлькапэль да Гелювэльт новые варожые штурмы адбіты ўсе с самымі цяжкімі стратамі.

*Усходні тэатр:*

Без важнейшых прыпадкоў.

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА, 9.X. *Італьянскі тэатр:* На плоскагоры Баінсіца італьянскае наступленьне адбіто с цяжкімі стратамі. У нашы рукі папалі 120 палонных і 7 кулемётаў. Пры Костаньевіцы ўзяты 180 палонных.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЛІМА (Гавас). Конгрэсс Пэру 105 галасамі проці 6 пастанавіў разарваць дыплёматычные зносіны з Нямеччынай.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Аб размерах падводнай вайны сьведчыць гэткі факт. Адна з нашых падводных лодак затапіла у часі апошняй падарожы ў Сэродземным моры 20.853 тонны вугалля, 1.000 т. алею, 1.245 тонн масл а, 4.000 тонн аўса, 1.000 тонн віна, 7.000 тонн розных тавароў і 12 паравозаў. Затопленаго вугалля хваціло-бы дзеля апалу на ўсю зіму для 27 т. кватэр па 3 пакоі. Затопленаго аўса хваціло-бы на пракармленьне 50.000 каней на 1 мес.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Навакол Англіі нашымі падводнымі лодкамі ізноў затоплены 19.500 тонн.

КАДІКС. Нямецкая падводная лодка № 293, разброеная тут 9 верасьня, у апошнюю ноч цішком выплыла. Начальнік порту і ўсе кіраўнікі яго выдалены са службы.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У канале Ляманш нашы падводные лодкі ізноў затапілі 4 цяжка нагружэные параходы.

# АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.